# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1217) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 24 ЧЭРВЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Дасканалая кампазіцыя цяперашняй архітэктуры Мінска.* *Фота М. Гайдука*

## ДА НАРОДНАГА

Цяпер у Беларускай ССР кожны пятнаццаты жыхар актыўна ўдзельнічае ў аматарскім мастацкім руху. Самыя разнастайныя гурткі мастацкай самадзейнасці працуюць пры Дамах і Палацах культуры, на прамысловых прадпрыемствах і ва ўстановах, у грамадскіх арганізацыях і школах, у саўгасах і калгасах. Пра іх сістэматычную працу, развіццё і належны мастацкі ўзровень дбае шэраг дзяржаўных устаноў і арганізацый, кіруюць жа імі належна падрыхтаваныя спецыялісты. Аматарскае мастацтва мае ў СССР багацейшыя традыцыі і ад заранку Савецкай улады па сённяшні дзень з'яўляецца адной з вельмі важных форм удзелу працоўных у культурным жыцці краіны. І мая размова з намеснікам міністра культуры Беларускай ССР **Арсенем Мікалаевічам Ваніцкім** засяродзілася на кірунках развіцця аматарскага руху і працах розных культурна-асветных устаноў рэспублікі над яго далейшым пашырэннем і ўдасканальваннем.

— Усебеларускі агляд усіх відаў мастацкай самадзейнасці ў 1977/78 культурна-асветным сезоне паказаў, што за апошнія гады колькасць удзельнікаў аматарскага руху павялічылася на звыш 100 тысяч чалавек і дайшла да 600 тысяч, — інфармуе А. М. Ваніцкі. — Надзвычай буйна развіваюцца этнаграфічныя калектывы, якія здабываюць з забыцця народныя абрады і гульні, а таксама песні і танцы, што ім спадарожнічаюць. Прыбывае таксама калектываў ударных музычных інструментаў. У той жа час слаба выглядае справа з калектывамі мастацкага слова, і мы спецыяльна правялі ў пачатку бягучага года агляд гэтых калектываў, выпусцілі шэраг выданняў з рэпертуарам для іх. Не заўважаецца таксама развіцця тэатральных калектываў, некалькі год таму было іх у рэспубліцы 52 і сёння асталося столькі ж. Затое расце лік акадэмічных харавых капэлаў, маем іх цяпер 34. Выконваюць яны пераважна класічныя творы беларускіх, рускіх і замежных кампазітараў. Асабліва славіцца сваім выканаўчым майстэрствам мужчынская капэла Мінскага аўтазавода і настаўніцкая капэла горада Брэста. Дзейнічае ў нас 2968 змешаных хораў са звыш 82 тысячамі спевакоў. І колькасць іх расце. Спяваюць яны пераважна фальклорныя творы ў апрацоўцы Р. Шырмы, Г. Цітовіча, творы беларускіх кампазітараў Ю. Семянякі, І. Лучанка, І. Кузняцова і іншых, самадзейных творцаў — Шыдлоўскага з Гродзеншчыны і Шыдлоўскага з Міншчыны, Пятрэнкі з Гомельшчыны. Як вядома, у нас самым лепшым мастацкім калектывам прызнаецца званне народнага. Гэтае ганаровае званне дакументуе высокае выканаўчае майстэрства і яго калектыў абавязаны

**(Працяг на стар. 2)**



*Дзяўчына ў народным касцюме з вёскі Морач Клецкага раёна.*
*Фота М. Раманюка.*

## Зрэпарцёрскіх запісак

## ТРЫВЯЗАЛІ КОСАМІ ДА ДРЭВА...

Сёння зноў вяртаемся на Буг, дзе тырчаць у зямлі жалезабетонныя бункеры — нямыя сведкі чалавечай трагедыі і салдацкага гераізму. Пра іх я шмат пісаў у мінулым годзе. Прыемна сцвердзіць, што мае рэпартажы, а перш за ўсё пра **„дот 18 безыменных герояў“**, выклікалі даволі вялікае зацікаўленне ў нашых чытачоў. Значыць, варта было гэтым займацца, значыць, трэба і надалей рабіць усё, каб яшчэ на адзін крок наблізіцца да праўды, хаця прыкрывае яе слой амаль сарака гадоў, праз які цяжка ўжо прабіцца людской памяці.

Здараюцца аднак у жыцці чалавека такія падзеі, якіх яму не забыць ніколі.

✲

Начальнік гміны ў Мельніку **Ян Здуневіч** у 1941 годзе быў пяцігадовым хлапчуком. Значыць, толькі распачынаў сваё свядомае жыццё. Разам з бацькамі жыў ён тады ў вёсцы **Буякі.** Гэта ў хлебароднай даліне між Драгічынам і Сямяцічамі, у чатырох кіламетрах ад Буга.

У нядзелю 22 чэрвеня яшчэ на досвітку разбудзіў іх грукат стральбы.

— А пасля над нашай вёскай, — успамінае Ян Здуневіч, — паявіліся самалёты. Былі гэта першыя жалезныя птушкі, якіх я бачыў у сваім жыцці. Не мог адарваць ад іх вачэй. Нават тады, калі яны пачалі абстрэльваць нашу вёску.

Ён проста яшчэ не разумеў, што значыць смерць і жыццё, чаму чалавек забівае чалавека, па якой прычыне гэтыя сярэбраныя птушкі з грукатам праносяцца над яго спакойнай вёскай і чаму абстрэльваюць людзей, чаму падпальваюць хаты.

Але маці схапіла яго за руку і павалакла ў нейкі роў на загуменне. Маленькі Янка нават і там не перастаў назіраць за гэтымі самалётамі, якія ўсё яшчэ знуткаваліся над іх вёскай.

— Яшчэ сёння памятаю, — гаворыць ён, — што выглядалі яны, як карткі паперы, пасярэбраныя бліскамі сонечных праменняў.

Маці зноў схапіла яго за руку і памчалася далей ад вёскі, праз поле, праз каласістае жыта... аж апынуліся на нейкім адзінокім хутары і схаваліся ў мураваны бульбяны склеп, які быў ужо запоўнены такімі ж уцекачамі, як і яны. Знайшлі для сябе свабодны куточак і, прытуліўшыся да халоднай сцяны, чакалі свайго лёсу.

✲

Раптам недзе зусім блізка застракаталі аўтаматы і праз кароткую хвіліну поўнай цішыні людзі ў склепе пачулі іншамоўны заклік: „Раўс!“ Болей здагадаліся, як зразумелі, што гэта немцы, што патрабуюць ад іх, каб вылазілі са склепа.

— Сабралі нас усіх на панадворку гэтага хутара, — расказвае Ян Здуневіч. — Загадалі падняць рукі ўверх і патрабавалі выдаць ім савецкіх салдат, якія быццам бы схаваліся разам з намі ў гэтым жа склепе. Ніякія паясненні, што рускіх салдат мы на вочы не бачылі, што іх сярод нас зусім не было, нічога не памаглі, бо гэтыя гітлераўскія галаварэзы паўтаралі толькі адно: *„Во зінд русэн зольдатэн?“*

✲

Ян Здуневіч раптоўна абарваў свой расказ і, прашаптаўшы слова *„выбачайце“*, доўга маўчаў, бо не кожнаму чалавеку ва ўзросце пяці гадоў даводзіцца перажыць уласную смерць...

Нямецкі афіцэр загадаў паставіць усіх іх пад сцяной клуні і зноў паўтараў сваё пытанне: *„Дзе рускія салдаты?“* І тады Янка зусім інстынктыўна зразумеў, што гэта канец яго маленькага жыцця. Ухапіўся за матчыну спадніцу і заравеў на ўсё горла, а жанчыны таксама ўзнялі лямант.

Гітлераўскія салдаты, падрыхтаваўшы да стрэлу свой кулямёт, чакалі афіцэрскага загаду. Янка ад жаху заплюшчыў вочы. І тады пачуў, што адначасова застракаталі аўтаматы і, калі ён адкрыў вочы, убачыў дзіўнае відовішча:

Працяг на стар. 4

 

**УСПАМІНЫ (25)**

# Ніна Мушынская
# Заручаныя з песняй

### СЕНЬЁРКА - СЕНЬЁРАМ

Год 1976. Ох, цікава ж пачаўся! На конкурсе „Беларуская песня-76“ выступіла я з Н. Цыванюк у дуэце. Выграбла з памяці (я заўсёды корпалася ў сваёй памяці, як у кнігасховішчы) вельмі старыя песні „Журавы“ і „Вясёла бяседачка“. Гэтыя песні спявала мая мама. Мелодыі памятала, а словы выляцелі. Помніла я даслоўна пару куплетаў з кожнай песні, але сэнсу не забылася. Прызвычаілася я ўжо дашліфоўваць тэксты. Так было і цяпер. Але нікому аб гэтым не сказала ні слова. Зараз магу сказаць, ад гэтага ўжо ацэнка не зменіцца.

Чакаючы рашэння камісіі, абменьваліся думкамі. Р. Дылько даказвала, што напэўна першае месца зойме дуэт з Бельска. Калі старшыня камісіі, Ада Чэчуга, пачала суперусхвальваць дуэт, я была пераканана, што менавіта яна гаворыць аб Бельску. І раптам чую: безапеляцыйна камісія прызнала першае месца дуэту, у якім спявалі пані Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк.

Радасць была кароткая. Чаму? А таму, што наш пан С. Копа ніколі не прапанаваў нам спяваць, а бачыў у дуэце толькі Паўлючук і Кот. Гэта кранала маю амбіцыю. Праўда, ніколі ў беларускіх конкурсах не было мне дрэнна. Адзін толькі конкурс успамінаю з прыкрасцю. Было гэта даўно. Помню, выступала я сола. На наступны дзень начавала ў сына. Сядзім з унучкай, слухаем радыё. Раптам аб'яўляюць беларускую перадачу (ішлі яны тады ў панядзелкі). Станіслаў Пазнанскі, які вёў гэтыя перадачы, пачынае каменціраваць учарашні конкурс. Пералічвае ўдзельнікаў: адкуль, якія хто заняў месцы і г.д. Не абмінуў і мяне. Даў, колькі ўлезла: дрэнны рэпертуар, голас, бы разбітае карыта. Словам, цудоўныя гукі ляцелі ў эфір. Унучка не дала дaслухаць, выключыла прыёмнік.

Вырашылі мы ў сёлетнім аглядзе драматычных гурткоў выступіць з „Адвечнай песняй“ Я. Купалы. У гэтым абразку прыняў удзел увесь калектыў. Агляд адбываўся ў Бельску. Публікі амаль не было зусім. Ігралі артысты для артыстаў. Каб так у нас у Гарадку, зала была б замалая.

Занялі мы першае месца, але задаволеныя не былі. Любім, калі апрача камісіі, ёсць многа публікі. Публіка — вялікі знаўца.

6 чэрвеня быў вялікі фэстын у Шудзялаве і, вядома, просяць нас, бо хто так ахвотна ездзіць... Самаход, які нас вёз, быў для развозкі хлебабулачных вырабаў. Лаўкі, не прыбітыя цвікамі, на выбоінах звальваліся разам з намі. Нічога, галоўнае — мясцовыя ўлады сустрэлі нас сардэчна.

Эстрада правізарычная: некалькі збітых дошак, абстаўленых бярозкамі. Добра, што было нас не многа, бо не змясціліся б на гэтай эстрадзе. Сярод гледачоў шмат па „самжане“. Хапалі нас ззаду за ногі, цягнулі за спадніцы, падказвалі, якія спяваць песні, а нават „памагалі“ нам спяваць, крычалі, што гарманіст замала расцягвае гармонік. Словам, прытыкаў мелі многа. Але мы, бабы сваёй гадоўлі, не трацілі ахвоты, спявалі.

Пасля канцэрта папрасілі нас на абед. Былі галодныя. Абед смакаваў. Потым моладзь крыху патанцавала, і дамоў.

12 верасня ў вёсцы Калодна адбываліся гмінныя дажынкі. Калодна — вёска гаспадарная, кожны домік, кожны плот дагледжаны. Добра працуе гурток вясковых гаспадынь.

Пагода была цудоўная. Эстрада вялікая. Апрача нас выступалі беластоцкія „Каласкі“. Публіка сардэчная. Пасля мастацкай часткі я паехала дамоў, сяброўкі засталіся. Гаварылі, што жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь падрыхтавалі пышны прыём.

У кастрычніку ГП БГКТ арганізавала ў Гайнаўцы і Чаромсе платныя канцэрты. Гледачоў было дастаткова. З Чаромхі выехалі не без цяжкасці. Сапсаваўся аўтобус. Пхалі. Памагала міліцыя.

На апошні канцэрт у гэтым годзе, які адбыўся 12 снежня, ехала я з хваляваннем. Быў ён прызначаны сеньёрам. Значыць, маім таварышам па ўзросту. Праграму падрыхтавалі вясёлую. Пасля канцэрта абменьваліся думкамі. Аказваецца, яны, сеньёры, згуртаваныя і вядуць мастацкую дзейнасць. Наракалі, што памяць слабая, вершы вымушаны чытаць з паперкі. Захапляліся, што я так многа гаварыла сёння па памяці.

Добра, што ёсць у нас дзень сеньёра.



## Будзе новая школа

Растуць сцены школьнага будынка ў Старым Ляўкове (гміна Нараўка). Жыхары ляўкоўскай акругі будуюць яго ў грамадскім пачыне. Гэты здымак зроблены 27 мая бягучага года. Працавалі ў той дзень: Юры Равінскі, Анатоль Ляшчынскі, Канстанцін Янцэвіч, Рыгор Пякарскі, Шымон Харкевіч, Васіль Целушэцкі і Яўген Засім.

Фота **Я. Целушэцкага**

## ДНІ БЕЛЬСКА

3 чэрвеня закончыліся Дні Бельска. Ужо чацверты раз Таварыства сяброў Бельска супольна з Домам культуры арганізоўвае ў гэтыя дні шмат розных мерапрыемстваў, уключна з выступленнямі мастацкіх калектываў.

Урачыстае адкрыццё Дзён Бельска адбылося 26 мая. У Доме культуры др З. Г. Гірш выступіў з дакладам на тэму „Фармаванне грамадска-палітычнай сістэмы ў перыяд 35-годдзя Народнай Польшчы“. Адбылося таксама адкрыццё выстаўкі разьбы ў дрэве М. Э. Мацяеўскага, а таксама выступленне фальклорнага калектыву „Канопа“ з Ратышковіц у Чэхаславакіі.

Кожны дзень праходзіў пад нейкім лозунгам. Напрыклад, 27 мая пад лозунгам „Маладосць — песня — дружба“ паказвалі свае дасягненні мастацкія калектывы Бельска і лаўрэаты раённых элімінацый на савецкую песню, а таксама госці з Чэхаславакіі.

30 мая пад лозунгам „Каб не загінула памяць“ дэлегацыі прадпрыемстваў, устаноў і школ накіраваліся ў Піліцкі лес на месца расстрэлаў немцамі жыхароў Бельска і яго ваколіц, узлажылі на магілах вянкі, выслухалі „апэль“ памяці.

„Гуляй разам з намі“ — такі быў лозунг 31 мая. У яго праграме быў фэстын працоўных Бельска, выступалі аматарскія калектывы бельскай спулдзельчасці. Быў канцэрт варшаўскай эстрады.

Многа ўвагі было ўдзелена спорту школьнікаў і моладзі з прадпрыемстваў, грамадскаму пачыну на карысць горада і іншым мерапрыемствам. **М. Х.**

**М. ШАХОВІЧ**

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**баба** — дошка, да якой прымацавана ўся верхняя частка калаўротка. Трэба нову бабу до ковротка зробыты. Тож як узяў, як бразнув ковротком, то но одна баба ціела зосталася, а то ўсё россыпалось.

**высадкі** — бульба, прызначаная для пасадкі. Я казала, буольш высадок взяты, а ты, ныэ, шчо і сіетых зостанэ. А вы высадкамі ціелымі чы рыэзанымі садытэ?

**гальвытка** — гэта тая частка касы, за якую прымацоўваюць яе да куся. Приложы гальвыткою до куся і насады персцень. Ныэ стукай гальвыткою, бо абоб'еш.

**курочка** — дробненькі дождж, які ідзе часамі на працягу некалькіх дзён. Дыэ ж воно будэ сохнуты, як вжэ которы дэнь на дворыэ курочка. То ж вжэ такі дождж лепш од курочкі, люнув і пэрэстав, а тая як почнэ, то пару дён.

**почосы** — рэшткі ільну пры першым часанні. Позбырай почосы, шчо ныэ прыдадуцця. А шчо вы з почосамі робытэ?

**розтэлепа** — чалавек, які робіць усё абыякава. І докуоль ты такою розтэлепою будэш? Робы толком, а то як тая розтэлепа.

*(Дубічы Царкоўныя)*

## У Плюцічах

Аўтобус ГП БГКТ імчыцца па істужцы шашы, што вядзе з Беластока ў Бельск. З яго прыадкрытых вокан вырываюцца на прастор мелодыі беларускіх песень у выкананні вакальнага БГКТоўскага калектыву „Каласкі“. Даехаўшы да Храбалоў, аўтобус паварочвае направа і спыняецца ў вёсцы Плюцічы, у якой партыйныя і адміністрацыйныя ўлады Бельскай гміны супольна з Галоўным праўленнем БГКТ 3 чэрвеня арганізавалі народны фэстын з нагоды сялянскага свята.

У вёсцы панаваў урачысты настрой. Шмат было развешаных сцягоў. Людзі па-святочнаму апрануты.

Перад фэстынам адбылася цырымонія ўрачыстай перадачы ў карыстанне пажарнай рамізы, у якой знайшлося месца і для клуба „Рух“. Найлепшыя плюціцкія пажарнікі атрымалі ўзнагароды.



*Чытае даклад Ян Мушыц.*

Неўзабаве распачаўся фэстын. На ўпрыгожаную бярозкамі трыбуну ўвайшоў ганаровы прэзідыум фэстына: прадстаўнікі гмінных улад разам з начальнікам гміны Янам Семенюком, дэлегацыя ГП БГКТ на чале з яго старшынёй Мікалаем Самоцікам і прадстаўнікі вёскі Плюцічы.

Фэстын адкрыў прэзас гмінна-гарадскога камітэта ЗСЛ у Бельску Францішак Зязюля, падкрэсліваючы багатыя рэвалюцыйныя традыцыі беларусаў Плюціч і суседніх вёсак. З дакладам выступіў першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Ян Мушыц. Ён асобую ўвагу звярнуў на сельскагаспадарчую палітыку нашай дзяржавы і заданні, вынікаючыя з яе рэалізацыі.

Затым пачалася мастацкая частка ў выкананні „Каласкоў“ з Беластока, „Згодных макаў“ з Райска, „Дубочкаў“ з Дубяжына і танцавальнай групы беларускага ліцэя з Бельска. ЛЗС арганізаваў спартыўныя ігры. Падвечар распачалася танцавальная вечарына.

*Выступаюць „Каласкі“.*

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**

## Дыпломныя работы пра творчасць „белавежцаў“

Прыемна адзначыць, што ўзнікаюць першыя дыпломныя работы пра творчасць „белавежцаў“, асаблівую ўвагу да якой праяўляе гродзенскі універсітэт імя Янкі Купалы. Два гады таму назад дыпломную работу абараніла там студэнтка Станіслава Добрук, пішучы пра паэзію Алеся Барскага. Зараз іншая студэнтка, Марыя Аверка, піша дыпломную работу, прысвечаную творчасці Сакрата Яновіча; яе даклад на гэту тэму атрымаў сёлета першую навуковую катэгорыю на ўсебеларускім конкурсе студэнцкіх навуковых работ.

Добразычлівым патронам зацікаўлення гродзенскіх студэнтаў творчасцю „белавежцаў“ з'яўляецца дацэнт Аляксей Пяткевіч, які таксама пастаянна рэцэнзуе па мясцоваму тэлебачанню актуальныя выданні нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Наступным універсітэцкім цэнтрам, у якім жыва цікавяцца нашым пісьменствам, з'яўляецца пазнанская альма матэр імя Адама Міцкевіча. Студэнты пад навуковым кірункам праф. Зёмка бяруць на свой навуковы варштат кніжкі „белавежцаў“: праананалізаваны там ужо том прозы С. Яновіча „Вялікі горад Беласток“, што з'явіўся ў перакладзе на польскую мову.

Ажно напрошваецца вывад: калі гэта нашы варшаўскія беларусісты пачнуць цікавіцца фрагментам беларускай літаратуры, што ўзнікае ў Народнай Польшчы? **(ся)**

## У ляўкоўскай акрузе

На пункт скупкі ў Новым Ляўкове (гміна Нараўка) дастаўляе малако ў сярэднім 130-150 сялян з Новага і Старога Ляўкова, Падляўкова, Капіташчыны, Бярнацкага Мосту, Ахрымаў, Сушчага Барка, Навін, Лазовага. Найбольш малака дастаўляюць: Міхал Баканач, Мікалай Болбат, Люба Целушэцкая, Павел Галубоўскі, Мікалай Ігнацюк — усе з Новага Ляўкова.

З некаторых вёсак малако возяць платныя вазакі: з Капіташчыны малако дастаўляе Васіль Болтрык, з Бярнацкага Мосту — Рыгор Карпюк, з Навін і Лазовага — Ян Ярашук і са стараляўкоўскай калоніі — Уладзімір Прычыніч.

Цяпер кожны дзень у гайнаўскую малачарню зборшчыца Ніна Сухадола адпраўляе 2200 літраў сырадою. Ад 25 мая малако возяць у Гайнаўку раніцай і вечарам.

Варта дадаць, што малако з ляўкоўскай акругі мае ў сярэднім 3,7% тлушчу, а бывае нават 4,2% (сярэдні паказчык у ваяводстве 3,6%). **(яц)**






 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Ветлівасць найважнейшая

Паважаны рэдактар, браўся я за аўтаручку ўжо некалькі разоў. Столькі ж ужо пісалі аб несалідных шафёрах! Ды набраўся смеласці, калі ў „Газеце Вспулчэснай“ прачытаў заметку аб заслужаным шафёры. Стала мне шкада заслужанага. Ён жа калега іншага шафёра, які 6 лютага з трыма пасажырамі ў аўтобусе ўцякаў перад вялікай групай людзей, якія яго чакалі ў Дубічах Царкоўных ад 5.30 да 9.30 гадзіны, бо хацелі заехаць у Гайнаўку. Я ледзь паспеў выняць з кішэні „лізак“ і спыніць уцякаючага шафёра. Як толькі я гэта зрабіў, мае чакаючыя спадарожнікі як рынулі да дзвярэй аўтобуса, дык мяне адкінулі аж на задняе кола і я апошні ледзь паспеў улезці ў сярэдзіну. Увараліся людзі ў аўтобус і хутчэй пазаймалі седзячыя месцы. Стаяў толькі адзін я і на дадатак безупынна лаяны тым шафёрам, які абяцаў набіць мяне ў Гайнаўцы. А людзі, якія ехалі дзякуючы мне, маўчалі, быццам вады ў рот набраўшы. Аніводзін чалавек не заступіўся за мною, калі шафёр-юнак мяне абзываў.

Магу іх зразумець толькі цяпер, калі ведаю, якія ўмовы падарожжа на дарогах Гайнаўшчыны. Людзі баяцца шафёраў, бо ўпэўнены, што ён у кожнай хвіліне можа іх з аўтобуса выгнаць. Але я і па сённяшні дзень шкадую, што затрымаў тады гэты аўтобус. Раз — таму, што перажыў паскудную лаянку ад шафёра, два — таму, што за баязліўцаў няма чаго заступацца. Каб падаў я на шафёра таго ў суд за знявагу, ніводзін з іх не захацеў бы быць маім сведкам.

**Васіль Петручук**

## ВАРТА ДУМАЦЬ

Вёска Рудуты. Вясной жыхары выйшлі ў поле. Аралі, сеялі. А вось і сенакосы, а за імі жніво. І тут варта спыніцца, задумацца.

Жніво — гэта пара, калі бацькі маюць мала часу, каб належна займацца сваімі дзецьмі. Яны ад усходу да захаду сонца працуюць у полі. Хочуць, каб як найхутчэй управіцца са збожжам. А што тады робяць іх дзеці? Пяці- і шасцігодкі? Бедныя дзеткі! Пякуцца на сонцы, марудзяць. Але што зрабіць, калі ні бацька, ні маці не мае для іх часу. У вёсцы многа такіх дзяцей, якія застаюцца без апекі ў час палявых работ.

Па-мойму (думаю, што такія думкі спадабаюцца і ўсім жыхарам Рудут), вельмі патрэбнае было б сезоннае прадшколле. Нейкіх 6 ці 7 гадоў назад у вёсцы арганізавалася нешта накшталт гэтага. Дзве дзяўчыны апекаваліся малышамі, арганізавалі розныя гульні, хадзілі з імі на рэчку, якая плыве каля вёскі. І варта цяпер ужо задумацца над гэтым жыхарам вёскі і членам гуртка вясковых гаспадынь. На жніво павінен быць у вёсцы дзяцінец!

**Заметка**

## ЖАНОЧЫ ПАЧЫН

Яшчэ ранняй вясною жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь у Трасцянцы абавязаліся сустрэць 35-годдзе ПНР эстэтычным выглядам сваёй вёскі. 28 і 29 мая, пасля доўгачаканага дажджу, жанчыны, зышоўшыся пад вечар, упарадкавалі агародчык клуба „Рух“. Зрабілі адмысловыя кветнікі. Пасадзілі там сотню браткаў і многа іншых кветак.

У працы выдзяляліся старэйшыя члены гуртка — Кацярына Астроўка, Зіна Грыгарук, Жэня Лукашук, Таша Трафімюк, Юля Салавянюк і старшыня гуртка Насця Сцепанюк.

Прыйшлі памагчы таксама і некаторыя мужчыны — Грыша Сцепанюк, Грыша Антанюк, Валодзя Богуш, Коля Казачук. І так супольнымі сіламі гародчык перад клубам змяніў свой выгляд. Сваё абавязацельства жанчыны з Трасцянкі выканалі. Моладзі з ЗСМП пакінулі толькі давесці да парадку агароджу.

**Рута**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Беластоку на вуліцы Вейскай уласнік самахода „Фіят-126п“ з'ехаў на левы бок вуліцы і стукнуўся з аўтобусам „Аўтасан“ МПК № 11. Уласнік самахода і яго жонка загінулі, а іх 6-гадовы сын, цяжка паранены, знаходзіцца ў бальніцы. „Фіят-126 п“ разбіты.




## Некалькі маіх заўваг

Артыкул „Вакол Дзядзькі Кваса“ Дзеда Кастуся з 27 мая зацікавіў мяне. Дзед Кастусь там піша, што год 1978 не быў удалым годам для „Нівы“. І, па словах аўтара, „вінаватым“ аказаўся наш любімы і паважаны Дзядзька Квас, які асмеліўся дапусціцца „недалікатнасці“ ў адрас „белавежцаў“ і нават кінуў у адрас таленавітай паэтэсы „словы знявагі“.

Нешта не помню я гэтых слоў знявагі. Помню толькі, як умела Дзядзька Квас палемізуе з кожным, хто занадта сучасна піша свае вершы. І гэта ўсё!

І яшчэ адно ведаю напэўна; каб не стала Дзядзькі Кваса, дык сапраўды тады была б няўдача і для рэдакцыі і для чытачоў. А так лічу, што 1978 год быў якраз вельмі ўдалым для „Нівы“ і для ўсіх нас.

Але вельмі цікава і добра піша Дзед Кастусь адносна нашай беларускай мовы, калі гэта афіцыяльна на з'ездзе гавораць па-беларуску, а ўжо ў калідоры забываюць яе. Ды і тут яшчэ не бяда, бо колькі разоў я быў на з'ездах карэспандэнтаў „Нівы“, усюды, нават і ў калідоры, гутарылі на роднай мове. Для прыкладу падам аднак іншы факт. Калісьці, некалькі гадоў таму назад быў я на адным тыднёвым курсе ў Белавежы. І тут сапраўды не пачуў аніводнага слова па-беларуску, ні на адным перапынку, ні ў ніякі вольны час. А сабраліся там былі толькі беларусы. Праз гэта кінуў курс. Во як!

А крамара ці пісьманосца варта пахваліць у „Ніве“, дарагі Дзеду Кастусь, калі ён заслужыў. З добрых, працавітых і сумленных людзей няхай іншыя бяруць прыклад.

*

„Запіскі натураліста“, якія выходзяць з-пад пяра вучонага інж. Б. Ф. Рудкоўскіна, пражываючага ў Бельску, я чытаю ў „Ніве“ кожны раз з вялікім зацікаўленнем. І ведайце, не толькі адзін я. І вось „Іхнагеалагічныя эцюды“, змешчаныя ў 21 нумары „Нівы“, усхвалявалі мяне асабліва.

Гэта сапраўды нешта каштоўнае для ўсіх тых, каму неабыякава ўсё, што нас акружае, уся цудоўная прырода! А прырода — гэта нешта такое вялікае, як космас!

Рудкоўскін — майстар гэтай формы, у якой выказваецца на старонках „Нівы“. Сваёй працы натураліста-прапагандыста прысвячае шмат працы і энергіі. Зямліца і даследаванні яе, чысціня вады, паветра, лесу — гэта галоўныя турботы і вялікія намаганні яго. Робіць добрую работу прыродзе нашай Беласточчыны.

Такія эцюды ўпершыню былі надрукаваны ў „Ніве“ і гэта добра, бо наша беларуская газета стала багацейшай на адно вучонае слова і яго аўтара. Гэта важна! І не толькі гэта, бо эцюды Ф. Рудкоўскіна смела можна назваць навуковай навелай. А такога яшчэ не было на старонках „Нівы“.

Аўтар дасканала ўмее выказацца на беларускай мове, і гэта сведчыць аб глыбіні, прыгажосці і багацці нашай роднай мовы.

А колькі можна навучыцца з гэтага артыкула! Як, напрыклад, мучыць чалавека ўспомненая там пакутлівая хвароба настальгія, калі чалавек жыве на чужыне. Усе згодзяцца з тым, што такая хвароба існуе. Што мучыць гэтая хвароба, калі чалавек кідае родны дом і куток. Ён хутка можа згубіць самае каштоўнае, тое, што арганічна звязана з яго чалавецтвам...

**М. Панфілюк**

### БУСЛАВА ГНЯЗДО

У вёсцы Белая, Бельскай гміны, як ісці ў Катлы, ёсць буслава гняздо на электрычным слупе. Ужо 5 гадоў. Бусел кожны год прылятае ў гэтае гняздо. Электроўня праводзіла рамонт электрычнай лініі, але драўляны слуп пакінулі для бусла на гняздо. Калі турысты праязджаюць, затрымліваюцца тут і фатаграфуюць буслава гняздо на слупе.

Пахваліць варта прыгожы жэст з боку электроўні, што пакінулі гэты слуп буславай сям'і.

**Андрэй Гаўрылюк**

### ПУСТА КАЛЯ КІЁСКА

Спажывецкі кіёск ВСС № 2 стаіць пусты ля выезду з Бельска на вуліцы Беластоцкай ужо паўгода. За самымі неабходнымі прадуктамі жыхары ходзяць у цэнтр горада. Чаму б не знайсці як найхутчэй прадаўца і адкрыць гэты кіёск, каб жыхары самыя неабходныя прадукты маглі купіць на месцы?

**Румі**

## КАРОТКІ ЛІСТ

Дарагая рэдакцыя! Я твой сталы чытач. Я чытаю і выпісваю „Ніву“ ад першага нумару. І я вычытаў у „Ніве“ ад 15 красавіка, што яна будзе каштаваць 1 злоты. Па-мойму, гэта трэба было зрабіць ужо хоць пару гадоў таму назад.

Таксама, па-мойму жа, хто перастане выпісваць „Ніву“, то такому чалавеку не дарагая свая родная мова. Я гэта пішу пад развагу чытачам. Калі лічыце патрэбным надрукаваць некалькі маіх слоў, — то надрукуйце, а калі непатрэбны, то можаце ўкінуць у кошык.

**Уладзімір Паплаўскі,**
Гарадок

**Ад рэдакцыі.** Як бачыце, лічым патрэбным апублікаванне вашых некалькіх слоў. І, па-нашаму, вы не павінны закончыць на гэтых некалькі словах. Нам прыдаўся б карэспандэнт з Гарадка. У вас цікавы стыль пісання.




Па слядах неапублікаваных матэрыялаў. На ліст чытача з Лап адказвае

**URZĄD WOJEWÓDZKI W BIAŁYMSTOKU, KURATORIUM OŚWIATY I WYCHOWANIA.**

„W odpowiedzi na Wasze pismo w sprawie listu czytelnika, dotyczącego warunków bytowych młodzieży w internacie Zespołu Szkół Mechanicznych w Łapach, Kuratorium Oświaty i Wychowania w Białymstoku uprzejmie informuje:

Internat Zespołu Szkół Mechanicznych w Łapach mieści się w 2 barakach, z których jeden jest w bardzo złym stanie technicznym, nie zapewniającym należytych warunków bytowych młodzieży.

Ze względu na istniejącą sytuację lokalową internatu i ograniczenia inwestycyjne, Dyrekcja Zespołu Szkół podjęła odpowiedzialne i bardzo trudne przedsięwzięcie dotyczące budowy nowoczesnego internatu na 200 miejsc sposobem gospodarczym. Dzięki zaangażowaniu, uporowi i poświęceniu Dyrekcji Szkoły, Organizacji Partyjnej, nauczycieli i młodzieży oraz pomocy niektórych przedsiębiorstw budowa internatu będze zakończona w bieżącym roku, co pozwoli zapewnić młodzieży dobre warunki zamieszkania, wypoczynku i nauki własnej oraz pozwoli podnieść pracę ideowo-wychowawczą w internacie na wyższy poziom.

Ze względu na bardzo dużą liczbę młodzieże ubiegającej się o miejsce w internacie, Dyrekcja Szkoły próbowała wygospodarować dodatkowe pomieszczenia dla potrzeb internatu. Okazało się jednak, że podczas zimy pomieszczenia te nie zapewniają należytych warunków zamieszkania. Dlatego też młodzież z tych pomieszczeń została skierowana na stancje, koszt których pokrywa Komitet Rodzicielski Zespołu Szkół.

W związku z występującymi w okresie zimowym trudnościami energetycznymi i opałowymi, występowały też okresowe przerwy w dopływie prądu oraz ograniczenia w ogrzewaniu istniejących pomieszczeń i dopływie ciepłej wody. Dyrekcja Szkoły czyniła wiele starań, by zaistniałą trudną sytuację poprawić, między innymi przy zakupie grzałek elektrycznych i dostarczenie ich do każdej sali internatowej.

Ponieważ do wszystkich budynków szkolnych jest doprowadzona bieżąca woda, nie zachodziła i nie zachodzi potrzeba korzystania ze studni, która jako jedyna znajduje się na jednej z posesji szkolnych i nie jest udostępniona do użytkowania.

Reasumując powyższe, Kuratorium Oświaty i Wychowania stwierdza, że istnieje duże zaangażowanie Dyrekcji Szkoły, Rady Pedagogicznej w zakresie poprawy i unowocześnienia bazy dydaktyczno-wychowawczej szkoły oraz troska o dobre warunki zamieszkania, nauki i wypoczynku młodzieży. Dobitnym tego przykładem jest podjęty trud budowy tak dużego obiektu sposobem gospodarczym.

Kurator Oświaty i Wychowania
**Edward Kryński**”

## На дубіцкай пошце

Цяпер пошта ў Дубічах Царкоўных працуе круглыя суткі, так як у горадзе. Ініцыятыва такой змены выйшла ад начальніка Дубіцкай гміны Мікалая Чыквіна і ахвотна падтрымаў яе раённы дырэктар пошты ў Гайнаўцы Мікалай Суліма. На пошце працуюць 4 тэлефаністкі і начальнік Лідзія Млодзян. Пошта мае 2 пісьманосцаў. Праца ідзе, як у згоднай сям'і. Добры прыклад!

**М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „НЕ ТУДЫ ДАРОГА“, „Ніва“ № 16 (1208) ад 22 IV 1979.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W BIAŁYMSTOKU ZAKŁAD ZAOPATRZENIA ROLNICTWA.**

WZSR „Samopomoc Chłopska”, Zakład Zaopatrzenia Rolnictwa w Białymstoku po otrzymaniu Waszej notatki w sprawie nie przyjmowania na zamianę worków po paszach przez GS Hajnówka, dokonał kontroli w dniu 15.05 br. i stwierdził co następuje:

Worki jutowe, w których dostarczane są śruty zbożowe występują jako opakowania zwrotne, fakturowane w cenie po 22 zł za sztukę.

Osoba fakturująca śruty przy wypisywaniu kwitów, pyta każdego rolnika, czy posiada worki na zamianę. Po stwierdzeniu, że rolnik nie posiada worków na zamianę, dopisuje do wartości śrutu, wartość worków.

Worki, w których dostarczana jest śruta, są znakowane trwałym stemplem „PZZ”.

Każdy nabywca śruty informowany jest dodatkowo, że obowiązuje 30-dniowy termin zwrotu worków.

W GS Hajnówka notowane są przypadki, że rolnicy przywożą do zwrotu worki innego pochódzenia i zniszczone.

Worki bez stempli „PZZ” i zniszczone nie są przyjmowane.

Dyrektor ZZR
**Zb. Dobrzyński**

**Да публікацыі: „ЯК У КАРЧМЕ“ „Ніва“ № 17 (1209) ад 29 IV 1979.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W ORLI.**

Zarząd Gminnej Spółdzielni „S. Ch.” w Orli, nawiązując do notatki zamieszczonej w Waszym tygodniku Nr 17 w sprawie nieprzestrzegania przepisów dyscypliny i higieny w naszym Zakładzie Gastronomicznym w/g opinii korespondenta, wyjaśnia, że podjęto odpowiednie działania w celu wyeliminowania podobnych wypadków.

Wprowadzono zakaz sprzedaży piwa kuflowego na salach konsumpcyjnych. Wprowadzono sprzedaż alkoholu wyłącznie w kieliszkach z przekąską wynoszącą 30% od wartości podanego alkoholu. Na odbytej w miesiącu maju naradzie z personelem zakładu udzielono odpowiednich wskazówek co do podawania alkoholu osobom nietrzeźwym.

Ponadto przypomniano jeszcze raz personelowi handlowemu i kierownikowi zakładu o ścisłym przestrzeganiu uchwały z dnia 10.XII.59 o zwalczaniu alkoholizmu, która to uchwała zabrania podawania napojów alkoholowych osobom nietrzeźwym.

Za pośrednictwem Waszego tygodnika chcielibyśmy przeprosić konsumentów, którym zdarzyły się wypadki, że nietrzeźwe osoby przeszkadzały w spokojnym spożyciu posiłku.

My ze swej strony postaramy się, by podobnych wypadków jak opisany w notatce, więcej w naszym zakładzie nie było.

Zarząd GS
**(M. Jarmowicz)**

**Да публікацыі „ДАРОГА З КУЧАМІ ПЯСКУ“, „Ніва“ № 16 (1208), ад 22 IV 1979.**

**Адказвае: PAŃSTWOWE GOSPODARSTWO ROLNE W BIELSKU PODLASKIM, ZAKŁAD ROLNY PARCEWO.**

W związku z notatką prasową w Waszym tygodniku krytykującą niedokończoną robotę na drodze do łąk wsi Widowo, wyjaśniamy. Przedmiotowa droga służy głównie, jako dojazd do łąk PGR i znajduje się w fatalnym stanie (wiele zapadlin bagiennych, uniemożliwiających absolutnie przejazd ciągnikiem).

W tej sytuacji na zlecenie Urzędu Gminy i zgodnie z projektem rekultywacji przystąpiliśmy do naprawy drogi jesienią ub. r., przywieźliśmy kilka wywrotek piasku, ale wczesna zima i obfite opady śniegu nie pozwoliły na kontynuację robót w okresie zimowym, najbardziej odpowiednim ze względu na zamarzanie bagna. W kwietniu b.r. rozpoczęliśmy kontynuację naprawy drogi i planujemy jej zakończenie do okresu sianokosów tj. do końca maja. W chwili obecnej po okopaniu drogi rowami, jest ona nieprzejezdna jedynie dla ciągników, natomiast pojazdy konne do gruntów przyległych mogą dojechać w warunkach nie gorszych od tych, jakie były na drodze przed jej naprawą. Z poważaniem:

Z-ca Dyrektora
d/s Technicznych
**(inż. Andrzej Dzienisiuk)**

**Да публікацыі: „ДЗЕ КУПІЦЬ АПОНЫ?“, „Ніва“ № 17 (1209) ад 29 IV 1979 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W BIAŁYMSTOKU ZAKŁAD ZAOPATRZENIA ROLNICTWA.**

W odpowiedzi na notatkę Waszą, zamieszczoną w Tygodniku „Niwa” w sprawie braku w sprzedaży opon 650×20 uprzejmie informujemy, że od 2 lat składnice maszyn rolniczych nie otrzymały przydziału tego rozmiaru ogumienia.

Przydział powyższego ogumienia otrzymaliśmy dopiero na IV kw. br.

W związku z powyższym z chwilą otrzymania dostawy, opony o rozmiarze 650×20 będą w sprzedaży w składnicach maszyn rolniczych.

Dyrektor ZZR
**Zb. Dobrzyński**

# РАСПЛАТА

За „подзвігі“ хуліганa Віцьку Капача ўзнагародзілі двума тыднямі адпачынку ў міліцыі. Вярнуўся ён калматы, як мядзведзь, крыху схуднелы і зноў узяўся за старое. Напіўся ўшчэнт. Сустрэўшы каля магазіна незнаёмага мужчыну, спачатку без ніякай прычыны моцна піхнуў яго, а пасля аблаяў брыдкімі словамі.

Але ці то бабкі праклялі Віцьку Капача, а можа ад празмернага ўжывання гарэлкі, схапіў бедалагу жывот. Так хлопца скруціла, што сябрукам нічога не заставалася, як выклікаць „хуткую дапамогу“.

У бальніцы, лежачы на кушэтцы, Віцька моцна стагнаў і час ад часу па дурной звычцы моцна лаяўся на медыцынскую сястру, доктара, які, на яго думку, доўга не ішоў, каб паставіць дыягназ. А калі ўрач урэшце зайшоў, Віцька вачам сваім не паверыў: перад ім быў той самы мужчына, якога ён сёння аблаяў каля магазіна.

Што было далей, нават цяжка сабе ўявіць. Хоць доктар і выгляду не падаў, што пазнаў хуліганa, аднак сам Віцька ляжаў ні жывы, ні мёртвы. А калі ўрач, памацаўшы жывот, сказаў, што гэта апендыцыт і трэба рыхтавацца хворага да аперацыі, Віцька забыўся і пра боль.

Ён адразу ж пачаў прыкідваць у думках магчымыя варыянты, як доктар можа яму адпомсціць. „Вось раскпора жывот і не зашые. Скажа, няма часу, трэба схадзіць піва папіць“, — аж спацеў ад такой думкі Віцька. Але крыху разважыўшы, вырашыў, што гэта занадта, і доктар не такі дурны, можа прыдумаць што-небудзь больш хітрае.

„Хутчэй за ўсё, — мучыўся хлопец, — ён можа завязаць на вузел якую-небудзь кішку. А што? Іх шмат, адну завяжа на васьмёрку і схавае, і капцы табе, Віцька Капач, адгуляў сваё. Загрыміш ты на той свет, а там ні „чарніла“, ні сяброў“.

Ніколі яшчэ стала Віцьку, ужо не рады быў, што прычапіўся да доктара. Але хіба ж мог прадбачыць такое?!

А калі Капача павезлі ў аперацыйную і паклалі на стол, бедалага зусім згубіў надзею на жыццё. Убачыўшы ў руках доктара скальпель, канчаткова вырашыў, што ён больш не пабачыць белага свету. „Вось гэты востры скальпель, — мільганула думка, — доктар пакіне ў жываце — і ўсё будзе шыта-крыта“.

Віцька Капач страціў прытомнасць.

**Алесь Макоўскі**



MADE IN ZADRYPANKA



**— Сам я вельмі прыгожы, — выхваляўся вярблюд, — вось толькі жонка ў мяне гарбатая.**

# НІЎКА



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

З карабля прыкмецілі чалавека, які плыў у адкрытым моры.

— Эй, не хвалюйцеся, — крыкнулі яму праз мегафон, — зараз мы спусцім шлюпку.

— Не трэба, — махнуў рукой плывец, — лепш скажыце, як даплыць да Ліверпуля?

— Плывіце проста яшчэ тры дні, а ў пятніцу павярнеце налева!

✲

Стары марскі воўк успамінае:

— ...Найстрашнейшае здарылася з намі каля Новай Гвінеі. Велізарная хваля ўдарыла ў карабель, і ён адразу развaліўся на кавалкі... Ніхто не выратаваўся!

— А вы? — нясмела спытаў нехта са слухачоў.

— Я?.. Я... Я ў гэты час быў у Сан-Францыска.

✲

Муж і жонка сядзяць на пляжы. Жонка дакарае мужа, які сочыць позіркам за кожнай прыгожай дзяўчынай, што праходзіць побач.

— Вядзі сябе прыстойна, Бобі! Ты ж жанаты!

— Ну і што? Калі я на дыеце, гэта яшчэ не значыць, што не маю права чытаць меню ў рэстаране.

ГУМАР З БАРАДОЮ

### НЯВЕСТКА ВІНАВАТА

— Хто вінаваты?
— Нявестка.
— Дык яе ж дома няма!
— Ды во яе плахта вісіць.





*Вельмі цікава!*

### З „Весніка Задрыпоніі“

### ІСЦІНА Ў ВІНЕ

Новы метад падрыхтоўкі паўсухіх він распрацаваў афіцыянт рэстарана „Паплавок“ С. Прага — ён разбаўляе сухое віно напалавіну вадой.

### ЛОЗУНГ ДНЯ

Адзін за ўсіх і ўсе на аднаго.

### НЕПАДОБНАЯ

Задрыпанка ў гадах кажа мужу:

— Цяпер, калі я так коратка падстрыгла валасы, праўда, я ўжо непадобная на старую?

— Так, так, непадобная. Бо падобная на старога.

ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!
*Калі прыслухаецца — той здагадаецца*

### СЛОН І МУХА

*Абвінілі Муху*
*Сваякі Слана,*
*Што Слану ў вуха*
*Стукнула яна.*
*Веча тэрмінова*
*Села засядаць.*
*Учаслі прапанову*
*Муху пакараць.*
*Вырашылі ў скрусе*
*За пятнаццаць дзён,*
*Што павінен Мусе*
*Ў вуха стукнуць Слон.*

**Л. Пранчак**

### ЦЯЖКА

— Чаму ты не адказваеш? — пытае настаўнік Міколку. — Што, вельмі цяжкое пытанне?

— Не, не пытанне. Адказ.

### СКРОМНАЕ ЖАДАННЕ

Дзяўчына звяртаецца да маці:

— Мама, я хачу быць балерынай.

— Чаму?

— А яе на руках носяць.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Зіны Макарэвіч са Слоі змяшчаем песню*

## Священная война

**Стихи В. Лебедева-Кумача, музыка А. В. Александрова**

Вставай, страна огромная,
Вставай на смертный бой
С фашистской силой темною,
С проклятою ордой!

Припев:

Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна!
Идет война народная,
Священная война.

Как два различных полюса,
Во всем враждебны мы.
За свет и мир мы боремся,
Они — за царство тьмы.

Припев.

Дадим отпор душителям
Всех пламенных идей,
Насильникам, грабителям,
Мучителям людей!

Припев.

Не смеют крылья черные
Над Родиной летать,
Поля ее просторные
Не смеет враг топтать!

Припев.

Гнилой фашистской нечисти
Загоним пулю в лоб,
Отребью человечества
Сколотим крепкий гроб!

Припев.

Пойдем громить всей силою,
Всем сердцем, всей душой
За землю нашу милую,
За наш Союз большой!

Припев.

Встает страна огромная,
Встает на смертный бой
С фашистской силой темною,
С проклятою ордой!

Припев.

КУРЁЗЫ

### КНЯСТВА

Адзін дробны англійскі дзялок Рой Бейтс, які здаўна марыў нажыць капітал, не надрываючы пупа, раптам аб'явіў сябе валадаром так званага „кнства Сілэнд“. „Княства“ гэта такіх памераў, што даводзіцца толькі здзіўляцца — гэта... проста жалезабетонная платформа з-пад зенітных установак часоў мінулай вайны ў пралíве Ла-Манш. За такое самазванства „князь“ быў арыштаваны, але хутка яго выпусцілі на волю, паколькі разабраліся, што платформа не належыць да тэрыторыі Вялікабрытаніі, а размешчана ў міжнародных водах. Рой зноў рынуўся да сваёй „зямлі абетаванай“, ды застаў там ужо другога „князя“, былога свайго намесніка, які ў адсутнасць Роя стварыў пераварот у „княстве“. Барацьба была жорсткай, і Рой перамог.

На пытанне, чым яму так спадабалася звычайная гэта платформа, Рой Бейтс адказаў проста: тут можна наладзіць рэгістрацыю новых фірм, якім не пажадана прайсці афіцыйную рэгістрацыю ў Англіі і плаціць дзяржаве падаткі. А для Роя — нейкі даход за гэтую добрую паслугу.

### ПАДАРОЖЖА АСЛА

Адна з першых кніг аўтара „Вострава скарбаў“ Р. Стывенсана — яго нарысы аб паездцы ў Францыю — называлася „Падарожжа з аслом“. Пісьменнік тады падарожнічаў на асле.

Рэцэнзія на гэту кнігу ў выніку недагляду выйшла пад загалоўкам „Падарожжа асла“.




**Іншым трэба плаціць за тое, каб яны нічога не рабілі.**